Пакольki ў гумары я чалавек вопытны (не адно дзесяцігоддзе пісаў вершы, маналогі, дыялогі, пародыі, усялякія «мудрызмы-зотавізмы», вёў гумарыстычныя старонкі ў розных газетах і часопісах, а таксама супрацоўнічаў з айчынным КВЗ, тэатрам гумару «Хрыстафор» і асобнымі «размоўнікамі», гумарыстычнай газетай «Ха-ха» і быў ды застаюся пастаянным аўтарам «Вожыка»), маю права крыху выказацца. Тым больш, з вартай нагоды — «прафесійнага» свята 1 Красавіка. Таму правяду своеасаблівы майстар-клас. З гумарам.

Гумар. Ну, як... натуральны булён, а не той, што ў кубіках.

Наш славянскі гумар, між іншым, заснаваны на прыязным стаўленні да асобы, на жаданні дапамагчы, абараніць... Рагатаць жа над тым, як чалавек паслізнуўся і ўпаў... Тут пачуцця гумару не трэба. Вось убачыць смешнае і ў сур'ёзным — гэта ўжо трэба падумаць.

Урэшце, гумар у першую чаргу — выдатная самаабарона. Ад пошласці, невуцтва, бескультур'я, хамства, несправядлівасці, жорсткасці, крывадушнасці, якіх у жыцці хапае. І навучыць яму, шчыра кажучы, немагчыма: ён або ёсць, або няма...

**Аляксандр ЗОТАЎ**

# ГУМАР — СПРАВА СУР'ЁЗНАЯ!

Дык вось. Гумар — гэта праўда. Гумарыць трэба сумленна. Без злосці, без крыўды, без раздражнення. Пажадана — з самаіроніяй. І з разлікам на разумных: яны — зразумеюць. А астатнія... Самі вінаватыя.

Камусьці падабаюцца амерыканскія, з дазволу сказаць, камедыі з дамешкам, прабачце, памыяў, ад якіх аматары сапраўднага гумару ўціскаюцца ў крэслы. Ад сораму... Камусьці ж заўсёды бальзам на сэрца — любая кароткаметражка вялікага Чарлі Чапліна, бессмяротныя камедыі Леаніда Гайдая, «вар'яцкія крыўлянні» Луі дэ Фюнэса ці П'ера Рышара, знарочыстая дурнаватасць Леслі Нільсана або Роўэна Аткінсана (містара Біна), цыркавыя нумары Юрыя Нікуліна ці Леаніда Енгібарава, спектаклі Вячаслава Палуніна... Ой, ды шмат ёсць сапраўды смешнага ва ўсім свеце! Вось дзе глядзіш і — вучышся. Гумару. І жыццю.

Бо ўсё гэта — жыццё. Штодзённае, звычайнае, праўдзівае. Хай часам і з сумнымі інтанацыямі, але ж як ёсць... І натуральны

Таму ўсміхайцеся, рагачыце, хіхікайце! Стварайце гумар — заўсёды і ўсюды, але — добры і высокай якасці!

*P. S. Адна старадаўняя легенда распавядае, што калі французскі кароль-сонца Людовік XIV абвясціў сваё знакамітае: «Дзяржава — гэта я!», то яго прыдворны блазан гучна і доўга рагатаў. А назаўтра ўзяў ды змайстраваў маленькую хатку і папяровае сонца, якое падвесіў у сябе над галавой. Сеў пад гэтым муляжным сонейкам і — паддаваў хатку нагамі... «Дзяржава — гэта я! Значыць, што хачу, тое і раблю!» — менавіта так ён зразумеў словы свайго караля.*

*Людовік жа, да яго гонару, усё скеміў правільна. Таму лагодна засмяяўся і дадаў: «А вось мой хвалёны блазан — люстэрка дзяржавы!»*

*Мая выснова простая: блазан — гэта камічнае люстэрка часу. Таму давайце заўсёды заставацца такімі блазнамі, якіх паважаюць нават каралі!..*




## Дарагія прывіды

***Рэчыцкі раён.*** Калі які-небудзь знакаміты мастак ці музыкант захоча выдаць кнігу, то ён нярэдка звяртаецца да «пісьменніка-прывіда», які напіша за яго. А ў Брагінскай дзіцячай школе мастацтваў звярнуліся па дапамогу да... «вучняў-прывідаў». У 2016–2019 гадах тры настаўнікі і дырэктар школы «прыпісвалі» сабе заняткі, якіх не праводзілі, і нават выстаўлялі дзецям фіктыўныя адзнакі.

Звычайна чытачы не здагадваюцца, колькі каштуюць паслугі літаратараў. А вось цана ўрокаў з «прывідамі» вядомая: яна абышлася бюджэту ў агульную суму звыш 21,1 тысячы рублёў. Супраць дырэктара і аднаго з педагогаў узбуджаны сапраўдныя крымінальныя справы.



## Ні ліса, ні заяц...

***Браслаўскі раён.*** Дырэктар аднаго сельскагаспадарчага прадпрыемства быў хітры, як ліса, і баязлівы, як заяц. Каб схаваць даўгі па зарплаце, ён загадаў работнікам бухгалтэрыі ўтаіць сапраўдныя звесткі. З 2016 па 2018 гады яны беспадстаўна заніжалі заробкі і ў выніку недаплацілі 150 супрацоўнікам больш чым 180 тысяч рублёў.

Але хоць дырэктар і ўцякаў ад адказнасці, як касы, ды трапіў у «пастку»: пракуратура г. Навапалацка ўзбудзіла ў адносінах яго крымінальную справу. На каго ж урэшце стаў падобны кіраўнік, здагадайцеся самі...

## Палятаў

***Лагойскі раён.*** У народзе кажуць: «Хто высока лятае, той нізка сядае». Так, «палёт» кіраўніка фірмы па мантажы сістэм вентыляцыі і кандыцыяніравання ўзяў старт у 2013 годзе, калі ён пачаў карыстацца фіктыўнымі бухгалтарскімі дакументамі. І дасягнуў небывалых вышынь у эканоміі на падатках: недаплаціў за тры гады больш за 660 тысяч рублёў.

Кантралёры вярнулі летуна на зямлю. Пакуль ён сядзіць ды чакае: вядзецца папярэдняе расследаванне.




## Чыя праблема?

***Магілёўская вобласць.*** Калі рэвізоры наведалі мясцовыя прадпрыемствы, то адразу заўважылі рост запазычанасці замежных кампаній перад беларускімі ў параўнанні з папярэднім годам. На першага снежня летась яна павялічылася больш чым на 20 працэнтаў і склала 58 мільёнаў рублёў. Як тут не ўзгадаць словы польскага літаратара Аляксандра Фрэдра пра тое, што запазычанасць у сто рублёў — праблема даўжніка, а ў мільён — крэдытора...

Айчынным фірмам давядзецца знайсці спосаб вярнуць свае грошы разам з няўстойкамі па дагаворах.

*Па матэрыялах прэс-цэнтра Камітэта дзяржаўнага кантролю Рэспублікі Беларусь.*




Мікола ГІРГЕЛЬ.

**Казімір КАМЕЙША**

## ДЫШАЛЬ



Колы без яго не пісну́ць
І не набяруць разгон.
Калі трэба сена ўціснуць,
Кветку з зёлкаю заціснуць,
Дышаль ёсць,
Прасі яго!

Сам тырчак ён, з непрыкметных,
Ды нясе па ветры нос.
Маеш воз,
Там ён — хрыбетнік,
Ім і дуж, і моцны воз.

Не пытайся, чым ён дыша.
З ім і граблі, і кассё.
Што й казаць: прамовіш «дышаль» —
Тут і сказана усё.

## ФІРМАЧ







Не сягаў за свет кудысьці,
Жыў пры стайні, пры хвасце.
Венікі вязаў калісьці,
Зараз — кошыкі пляце!

Там, дзе кошык, — грыб і бульба,
Там, дзе венік, — смецце скрозь.
Кошык маем — з ім і будзьма,
Смецця з хаты не вынось!



Вунь рэклама так і кажа,
Так і я сказаць хацеў:
Фірма венікаў не вяжа,
Фірма кошыкі пляце!..




Алег ГУЦОЛ.

## МОВУ ЗАНЯЛО...

- Ноччу ў горадзе было малалюдна і малатранспартна.
- Чалавек, які стаіць у краме ў доўгай чарзе, ператвараецца з пакупніка ў пакутніка.
- Якая коска не марыць стаць апострафам?
- Ён меў даволі сярэднюю адукацыю.
- У чалавека — доля. У мандарына — толькі долька...
- Хто каго, а мы «Кагор»!
- Пасля пажару ў клубе яшчэ доўга клубіўся дым....
- Псі-хі-хі-хічнае аддзяленне бальніцы.
- Хопіць чахнуць, трэба шахнуць!
- Таршэр — гэта люстра, якая жыве палавым жыццём.
- П’юць многія і п’юць многа. П’юць усялякія і ўсялякую і па-ўсялякаму. П’юць без нагоды і з нагоды ўсялякай.

**Анатоль ПАЛЫНСКІ,**
*г. Беразіно.*

# Міхаілу ЗНАЙДЗЮКУ — 50!






*Сяброўскі шарж Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.*




*Калі пры першым знаёмстве Міхаіл Анатольевіч зайшоў з карыкатурамі ў рэдакцыю, то мы нават не здагадваліся, якімі талентамі ён валодае. Пазней высветлілася, што гэты адметны мастак, мультыплікатар, яшчэ і заўзяты паляўнічы і рыбалоў. А таксама — арыгінальны апавядальнік, які расказвае так, што слухаў бы і слухаў! І, вядома, рагатаў. Высачэзны, барадаты, з вясёлым агеньчыкам у вачах... Сапраўдны акцёр, дальбог.*

*Віншуем Міхаіла з юбілеем і жадаем весела крочыць з «Вожыкам» у абдымку яшчэ доўгія гады!*















# Грашовая загадка

*Міні-фельетон*

Колькі разоў пераконваўся ў слушнасці любімага выказвання расійскага сатырыка Міхаіла Задорнава пра адзін народ: маўляў, тупыя яны. Ні табе палёту фантазіі, ні загадкі… Усё прамалінейна. Калі чорнае, дык абавязкова black, калі белае — white, калі долар, то толькі dollar ці, як скарочаны варыянт, — USD.

Іншая справа ў нас. І палёт, і фантазія… У тым ліку і пры назве грошай. Напрыклад, горад Беразіно, траса М-4. Стаяць насупраць адна адной дзве запраўкі, розных уласнікаў. На першай з іх вам зальюць паліва за такія грашовыя адзінкі, як BLR, а на другой — за BYN. Вядома, што ў абодвух выпадках маюцца на ўвазе беларускія рублі. І дзе тут зразумець замежнаму госцю?

Каб устанавіць, як жа правільна называецца наша айчынная валюта, адправіўся ў аддзяленне «Беларусбанка», найбольш афіцыйнае, дзяржаўнае. У касе ў мяне прынялі 10 рублёў. Паглядзеў у чэк: 10 BYN. Вось табе і раз! Тым часам БелТА — буйнейшае дзяржаўнае інфармацыйнае агенцтва — называе ў сваіх матэрыялах нацыянальную валюту няйнакш, як BR. Даводзілася сустракаць і такую абрэвіятуру, як BYR.

Вось так: BYR, BR, BLR, BYN… Магчыма, існуюць яшчэ і іншыя варыянты. І калі ва ўсіх пералічаных абрэвіятурах літара R абазначае, відаць, рубель, дык што значыць літара N у варыянце BYN? Верагодна, нацыянальная? А ў чыгуначных білетах замест лацініцы наогул выкарыстоўваюць кірыліцу і пішуць БРБ.

Карацей кажучы, адказу на пытанне, які ж з варыянтаў правільны, я не атрымаў… Задумаўся. Чаму ж мы не пішам замест USD, напрыклад, AD (American dollar)? Не ўжываем варыянты evr або eup для абазначэння еўра (eur)? Відаць, таму, што гэта няправільна і нас не зразумеюць.

Як вядома, кожная валюта ў міжнародным класіфікатары мае канкрэтную афіцыйную і адзіную назву. Ёсць яна і для беларускага рубля. Зацверджана такая назва і адпаведным дзяржаўным актам. Толькі чаму мы не карыстаемся гэтым дакументам? Для кожнай краіны нацыянальная валюта з'яўляецца не менш важным атрыбутам у вызначэнні яе суверэнітэту, чым герб і сцяг. Толькі мы не звяртаем на гэта аніякай увагі і праяўляем дзівосы вынаходніцтва ў працэсе прыдумвання чарговай, найбольш закавырыстай і незвычайнай абрэвіятуры для айчыннай валюты.

Мы нярэдка скардзімся на недахоп грошай, на тое, што не водзяцца яны ў нашай кішэні. Зразумелі, чаму гэта адбываецца? Правільна: як мы да іх, так і яны да нас…

**Грошы лічыў**
**Анатоль ПАЛЫНСКІ,**
*г. Беразіно.*






# Настаўнік-лінгвіст, перспектыўны гумарыст

*Для нашага маладога і перспектыўнага аўтара Антона ЛАБАНОЎСКАГА роднае слова – перш за ўсё прадмет выкладання. Вось ужо чацвёрты год ён працуе настаўнікам беларускай мовы і літаратуры ў Мяжысецкай сярэдняй школе на Магілёўшчыне. Выпускнік філалагічнага факультэта Магілёўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Аркадзя Куляшова свядома адмовіўся ад працы ў абласным цэнтры: выхадзец з вёскі, ён вырашыў сеяць разумнае, добрае, вечнае менавіта на перыферыі. Вучні свайго педагога любяць, бо той умее размаўляць з імі на адной мове; не толькі вучыць, але і вучыцца ў сваіх выхаванцаў.*

*Антон Мікалаевіч спрабуе асэнсаваць беларускае слова яшчэ і як мастацкі інструмент, ствараючы паэтычныя творы. Гэтыя практыкаванні аўтар распачаў яшчэ ў студэнцкія часы. Праўда, слухачамі і чытачамі была невялікая аўдыторыя – сябры ды будучая жонка. Ужо тады малады чалавек заўважыў, што найбольшым поспехам карыстаюцца вершы гумарыстычнага зместу. Праз некаторы час вярнуўся да любімай справы, падцягнуў «матчастку», пачаў чытаць кнігі па вершаскладанні. Калегам і сябрам напісанае падабалася, а вось у друк сціплы аўтар нічога не аддаваў. Аднак, на шчасце, аднойчы ўсё ж вырашыў падзяліцца гумарыстычнымі творамі з рэдакцыяй «Вожыка»....*

*Назіральнасць, здольнасць да самакрытыкі і ўменне з гумарам глядзець на навакольны свет – вось тыя якасці, што, па ўласным прызнанні Антона Мікалаевіча, дапамагаюць яму пісаць байкі і вясёлыя вершы. Дзякуем аўтару за аказаны давер, зычым творчага плёну і прафесійнага росту, а чытачам прапануем новы твор перспектыўнага гумарыста.*

**Антон ЛАБАНОЎСКІ**

## ПРА АПАРАТ і СКОНЧАНЫ ЗАРАД

Аднойчы ў вёсцы ладзіўся канцэрт.
Усе прыйшлі – нават старэнькі дзед.
Не ўзяў з сабой бабулю ён знарок:
Спяваць дзяўчаты будуць нейкі рок.
Навошта жонцы нервы церабіць?
А ён з задавальненнем паглядзіць,
Паслухае, успомніць маладосць...
Стары, але ў запасах порах ёсць!
Звініць званок, у зале стала ціха.
Артысты выйшлі... Толькі што за ліха?
Раты нібыта сталі адкрываць,
Але амаль ні гуку не чуваць.
Падвёў дзядулю цуда-апарат
Для слыху – хутка скончыўся зарад.

Змяніць бы зараз мігам батарэйку,
Каб слухаць бас-гітару – не жалейку.
Ды дома ў сумцы бабы запасная...
Ну трэба ж, сітуацыя такая!
Не радуюць дзядулю і дзяўчаты,
Устаў стары, пасунуўся дахаты.

---

Гісторыі няхітрая мараль:
Збіраешся ці ў госці, ці на баль –
Дык палавінку не забудзься ўзяць,
Бо потым давядзецца шкадаваць.




**Братка Вожык!**

Напачатку студзеня ў маім горадзе запрацавала адзіная база рэгістрацыі хатніх жывёл з інфармацыяй пра іх прышчэпкі і ўладальнікаў. Гэта выдатна!

Але як быць з тымі, хто не рэгіструе гадаванцаў і не ходзіць да ветэрынара? Хто не плаціць адпаведныя падаткі, але карыстаецца пляцоўкамі для выгулу? Хто заводзіць больш за двух братоў нашых меншых у гарадской кватэры на «радасць» суседзям?..

І ці часта мы чуем, каб некага аштрафавалі за парушэнне правіл утрымання жывёл? Калі ж закон урэшце пачне працаваць і што для гэтага трэба?



**Вікторыя ЦЫБУЛІНА,**
*г. Магілёў.*

**Прывітанне, сябра Вожык!**

Не сакрэт, што раней брэсцкім маладажонам падабаліся даты 18.08.2018 і 19.09.2019, цяпер – 20.02.2020 і 22.02.2020.

Дзіўна, але людзі згодныя стаяць у доўгай чарзе па «шчаслівую» дату замест таго, каб свабодна распісацца ў «звычайны» дзень.

На жаль, пра залежнасць разводаў ад даты шлюбу нічога не вядома. Аднак гэта не перашкаджае верыць у тое, што набор лічбаў гарантуе сямейную гармонію...

**Вольга ХОМІЧ,**
*г. Брэст.*

**Добры дзень, калючы дружа!**

Відаць, вытворцы канвертаў вырашылі дапамагчы следчым і таму пачалі выпускаць прадукцыю з подпісамі «Падарунак», «Дзякую» і падобнымі.

Зараз ужо абвінаваціць службовую асобу ў хабарніцтве няпроста. Прыгожыя літары дакладна сведчаць: спецыялісту дзякуюць за добрыя адносіны.




Інакш навошта такія канверты? Напэўна, каб адным стрэлам двух зайцоў забіць: і ў турму нікому не трапіць, і хабар даць. Звычайны «дзякуй» у кішэню ж не пакладзеш...

**Андрэй СІДАРЭЙКА,**
*Рэчыцкі раён,*
*агр. Каравацічы.*



Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.




Аляксандр ШМІДТ.




**Андрэй СІДАРЭЙКА**

## 28 красавіка – дзень «Пацалуй каханага (каханую)»

**Афіцыйна**

*28 красавіка святкуюць дзень «Пацалуй каханага (каханую)». Мерапрыемства трэцяй дэкады месяца мае штогадовы характар.*

# ЗА ШТО?

*Гумарэска*

Раніцай, пакуль жонка была яшчэ ў ложку, Яўген Курачкін гатаваў на кухні сняданак і слухаў радыё. Якраз у гэты час дыктарка нейкай пазнавальна-забаўляльнай праграмы абвясціла, што сёння – свята пацалункаў.

Мужчына міжволі задумаўся: «Цікава, колькі я ўжо не цалаваў жонку?»

З Кацяй яны жылі дваццаць пяць гадоў. Маладосць непрыкметна мінула, а з ёю і гарачыя пачуцці... Жонка магла пацалаваць яго хіба 23 лютага, а ён яе – 8 Сакавіка. Ну, і яшчэ на Новы год ці на дзень нараджэння.

«Вось сюрпрыз будзе!» – усміхнуўся сам сабе Курачкін...

Ён хацеў паклікаць жонку, але яна сама зайшла на кухню.

Курачкін імкліва наблізіўся да Каці і пацалаваў яе ў шчаку. Сюрпрыз не атрымаўся. Жонка нават не ўсміхнулася, а чамусьці падазрона паглядзела на мужа.

– Хіба сёння 8 Сакавіка? – строга запытала яна.

– Не, – чамусьці вінавата прамармытаў той.

– Тады за што?

Курачкін хацеў патлумачыць, але Каця нечакана выпаліла:

– Нават і не думай! Боршч варыць не буду!

– Ды не... – пачаў муж. Ён хацеў сказаць: «Ды не ў гэтым справа», але жонка зноў яго апярэдзіла:

– І грошай на новую вуду таксама не дам!

– Ды я... – Курачкін зноў паспрабаваў растлумачыць парыў пяшчоты, але і тут Каця перабіла яго:

– І на піва з сябрамі не пушчу!

– Як ты... – муж хацеў сказаць: «Як ты магла падумаць...», але і тут не паспеў данесці галоўнае.

– Усё зразумела, – сумна ўсміхнулася Каця. – Ты эгаіст, Курачкін!

– Я?!

– Ты! – працягвала гнуць сваю лінію жонка. – Навошта ты мяне пацалаваў? За што?

– Ды дзень такі сёння, – нарэшце здолеў прамовіць той.

– Які такі?!

– «Пацалуй каханага (каханую)» называецца. Па радыё дыктарка аб'явіла, пакуль ты спала. Вось я і вырашыў зрабіць табе сюрпрыз.

Каця палагаднела.

– Нічога сабе святы бываюць... Тады добра. Давай снедаць.

– Апетыт знік, – пакрыўджана адказаў Курачкін.

Каця рашуча падышла да мужа і пацалавала яго ў шчаку.

– Ведаеш, я перадумала. Звару сёння боршч. А пасля абеду вазьмі грошай ды купі сабе новую вуду, бо старая нікуды не вартая. Можаш і перад сябрамі пахваліцца. Чаму б і не? Такое свята сёння: ужо два разы пацалавалася, і гэта толькі за раніцу!

І яны абое весела рассмяяліся, нібы дваццаць пяць гадоў таму...

*Рэчыцкі раён,*
*агр. Каравацічы.*

**Пятро РАБРО**

## Бясплатны пацалунак

Сустрэліся дзед з бабай праз гады,
Пад сакавіцкім сонейкам за пуняй.
– Ох, і казак жа ты быў малады!
– А ты якой была тады красуняй!..
І дзед размову так далей павёў:
– Краса твая спакою не давала.
Прыгадваеш, даваў я пяць рублёў,
Каб ты мяне разок пацалавала?
Старэнькая ў руках хусцінку мне
І ўсхліпвае:
– Я так аб тым шкадую!
Каб не лічыў ты скнараю мяне,
Хадзі – цябе бясплатна пачалую!



Пераклад з украінскай
**Міхася МІРАНОВІЧА.**
*«Усмешкі», Мн., 2018 г.*

**Між іншым**

*З красавіка вы можаце не пайсці на працу, калі там нецікава. Свята абавязвае! 15 красавіка адзначаецца Дзень гумкі. Калі ж вы любіце часнок, то можаце смела есці яго жменямі 19 красавіка. А 28 красавіка бярыце з кніжных паліц тамы прызнаных паэтаў і зачытвайцеся іх творамі: святкуйце Дзень вялікай паэзіі...*







Моцны вецер засвістаў –
Будзе завіруха.
Хлопец дзеўку цалаваў,
Аж адмерзла вуха.

* * *

Вырывала хворы зуб,
А ён не вырываўся.
Мой каханы – аднalюб,
Сяброўцы ў тым прызнаўся.

* * *

Пазнаёміўся дзядок
З дзеўкай маладою.
Будзе ўночы казытаць
Пышнай барадою.

* * *

Едзем, едзем на машыне,
Павявае вецярок.
Нават калі мілы кіне,
Застанецца мне сынок.

* * *

Хоць машыну мае дзед,
Водзіць ён веласіпед.
Толку з іншамаркі,
Як не вып'еш чаркі?

* * *

Вечарамі месяц свеціць,
Пазіраюць зоры.
Пачакаюць муж і дзеці –
Я спяваю ў хоры.

* * *

Ранкам певень вёску будзіць,
Крыламі лапоча.
Хлопец па сяле не блудзіць,
Як жаніцца хоча.

* * *

Кавалера напужала,
Што я замуж не пайду,
Калі сам насіць не будзе
Ён з калодзежа ваду.

* * *

Прасавала я фіранкі,
Вокны занавесіла.
Мілы цалаваў да ранку –
Мне на сэрцы весела.

Праспявала
**Вольга ЛАБАЖЭВІЧ,**
*г. Клецк.*

Зайграй, мілы, без прымусу,
Мы ж – як дзве цукерачкі.
Хай пачуюць беларусы
З перчыкам прыпевачкі.

* * *

Сто разоў прызнацца мушу:
Мы без жартаў нікуды.
Гумар добра лечыць душу
І ратуе ад нуды.

* * *

Я гуляла з Цімафеем,
Думала, што пахудзею.
Выйшла ўсё наадварот:
Папраўляецца жывот.

* * *

О-ха-ха ды у-ха-ха,
Час ляціць, не спыніцца.
Як дадуць мне жаніха –
Тры дзясяткі скінецца!

* * *

Любяць хлопцы выпіваць,
На спадніцы косяцца.
Не паспеюць пакахаць,
Як у ложак просяцца!

* * *

Угару я кепска рос
І малым застаўся.
На паўметра недарос
Ды на метр стаптаўся!

* * *

Ой, вясёлая гулянка,
Ды багата тут разяў.
Абдурыў мяне Іванка,
А Міхась у жонкі ўзяў!

* * *

Ты – сыпучы беражок,
А я – твая рэчка,
Ты – чыгунны мой гаршчок,
А я – твая печка!

* * *

Мой мілёнак рыжы-рыжы,
Ўсе саперніцы злуюць,
Бо за рыжага ў Парыжы
Сем камп'ютараў даюць.

**Праспявала Людміла ЮШЫНА,**
*г. Баранавічы.*






# ПАМЯЦІ СЯБРА


Аўташарж Аскольда ЧУРКІНА, 1980 г.

Аскольду ЧУРКІНУ сёлета споўнілася б 90 гадоў… Рана пайшоў ад нас гэты надзвычай таленавіты мастак, карыкатурыст, плакаціст. Але найперш – сябар, калега, невычарпальны на выдумкі і свавольствы. Паслядоўнік у беларускай карыкатуры Дзмітрыя Красільнікава і вучань майго бацькі Анатоля Валянцінавіча Волкава, які стаяў каля вытокаў часопіса «Вожык» поруч з Кандратам Крапівой, Міхасём Чавускім.

Дапытлівы, з вострым розумам і памяццю, Аскольд вучыўся ў Мінскім мастацкім вучылішчы, скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Але любоў да карыкатуры, вядома, перамагла. Карыкатурыстамі ж нараджаюцца, а ён якраз быў народжаны для гэтай вясёлай і складанай прафесіі.

Аскольд рана стаў мастацкім рэдактарам «Вожыка». І па праве займаў гэтую пасаду доўгі час. Менавіта яму належыць цяперашні лагатып часопіса.

Дзевятнаццацігадовым юнаком я прынёс у «Вожык» першую карыкатуру. Аскольд з тэмай пагадзіўся, але прымусіў пяць разоў перарабляць малюнак. Што ж, я не наракаў і ўсё выконваў. Затое якая радасць была ўбачыць свой малюнак у самім «Вожыку»! А ён у тыя гады выдаваўся тыражамі ў 100–200 тысяч экзэмпляраў…

Аскольд Чуркін вельмі любіў палітычныя малюнкі народнага мастака СССР Барыса Яфімава і ў многім пераймаў яго стыль.

У рэдакцыі «Вожыка» Аскольд працаваў у адным кабінеце з Янкам Сіпаковым, Уладзімірам Правасудам, Міхасём Пянкратам. Гатовыя карыкатуры звычайна абмяркоўваліся і прымаліся ў загадзя вызначаны дзень. І гэты дзень быў святам смеху, гумару, пад'юджвання, у якім заўсёды прымаў удзел і Юзік Пучынскі, мастацкі рэдактар часопіса «Работніца і сялянка», што знаходзіўся ў адным калідоры з «Вожыкам».

Аскольд быў шчодры на выдумкі. То ён садзіў у свой «Масквіч» столькі пісьменнікаў і мастакоў, колькі ўлазіла, разганяўся да ста кіламетраў у гадзіну і нечакана рэзка тармазіў. Крыкі, лямант, гузакі на лбах… А Аскольд радасна заўважаў: «Бачыце, як мне выдатна адрэгулявалі тармазы!» То па тэлефоне заказваў машыну з гаража ЦК КПБ, прадстаўляючыся загадчыкам аддзела культуры, і ехаў на ёй з сябрамі ў любімы рэстаран у старым аэрапорце,


– Вам трэба займацца спортам.
– А я ж трэнерам па лёгкай атлетыцы працую.


– Учора пілі за бацькаву зарплату, сёння за бабульчыну пенсію, а заўтра за што піць будзем?..

куды таксама папярэдне быў зроблены званок нібыта з Савета Міністраў...

Але найперш Аскольд быў таленавітым і бліскучым карыкатурыстам, неверагодна працаздольным, «генератарам» ідэй у часопісе.

Мы страцілі яго, калі яму было ўсяго 55 гадоў. Пайшоў майстар палітычнай сатыры. А з ім знікнуў з часопіса і сам жанр палітычнага малюнка.

Седзячы за рэдакцыйным сталом, нават размаўляючы, Аскольд увесь час нешта маляваў (у асноўным — аўтамабілі і самалёты: да іх была неверагодная цяга, слабасць). Такім — вясёлым, дасціпным, шчодрым на тэмы для малюнкаў і ўсялякія штукарствы — ён і застаўся ў памяці...

**Сяргей ВОЛКАЎ,**
*заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь,*
*лаўрэат прэмій імя Кандрата Крапівы і Васіля Віткі.*




«Паплылі нашы грошыкі...»




— Вы хіба не бачыце, што ў нас дыму не любяць?



— Мама, давай хутчэй дамывай падлогу, а то ў мяне ногі здранцвелі.




— Вось добра, што сустрэліся, а то як бы я вам давёз справаздачу аб стане дарог.

*«Вожык», 1969-1971 гг.*

# БЯЛЫНІЦКІЯ ГУМАРЫНКІ

Васіль НАЙДЗІН

Напрыканцы 1967 года пасля чатырохгадовай службы ў часцях і на караблях Чарнаморскага і Балтыйскага флатоў я вярнуўся ў родныя Бялынічы і пачаў працаваць у райгазеце, якая тады называлася «Зара камунізму». Вокны майго, лепш будзе сказаць – нашага – кабінета, за сталамі якога шчыравалі знаўца сельскагаспадарчых спраў Архіп Халадцоў, начытаны, з пачуццём гумару Аляксей Садоўнічы, выходзілі ў даволі прасторны двор райкама партыі.

Пра камп'ютары тады і гаворкі не было. Ручка, папера... Ну і – галава. А ў мяне яшчэ фотаапарат... Часта, безумоўна, раіліся адзін з адным, падыходзілі да акна, разважаючы пра што-небудзь...

І аднойчы бачым такі малюнак.

Каля райкамаўскага гаража добра знаёмы ўсім бялынічанам вадзіцель рамантуе «казла». Нават рухавік з яго зняў. Ды не тое галоўнае! Каля машыны ходзіць конь. Шафёр яго адганяе, а жывёла ўсё бліжэй ды бліжэй падступае. Вадзіцель здзіўлена глядзіць на каня, той таксама сваімі вялікімі вачамі лыпае на яго...

– Во фотка будзе! – кажа Лёша Садоўнічы. І пазірае на мяне. – А то нам ужо няма чым смяшыць людзей: ні гумарэсак, ні жартаўлівых малюнкаў. Адны сур'ёзныя артыкулы ціснем. Рыгорка пра свой «Вожык» забыўся...

– Выскачы, шчоўкні! – нацэльвае мяне на дзеянні і заўсёды сур'ёзны Халадцоў. – Цяжка табе, ці што?

Фотаапарат у мяне заўсёды быў пад рукой, наведзены. Выбег на двор, прыладзіўся, зрабіў некалькі кадраў...

На чарговай рэдакцыйнай планёрцы, як заўсёды, пайшла размова пра будучыя нумары газеты.

Рэдактар Мікалай Рабцэвіч пытаецца:

– Што ў нашым «загашніку» маецца? Надзённае, цікавае...

Адказны сакратар Аляксандр Шчасновіч дакладвае: патанчэлі папкі, «забойных» матэрыялаў няма. І фотаздымкаў – не густа...

– У Васіля ёсць фотка, – Аляксей Садоўнічы паварочваецца да мяне і міргае так, каб ніхто не бачыў. – Пакажы! Не бойся...

Пакуль усе разглядаюць здымкі, на якіх конь з машынай, я ўслых разважаю: маўляў, тэкстоўку да яго можна ўмомант напісаць. Жартаўлівую, з гумаркам...

Ідэю адразу ж падтрымаў Рыгор Яўсееў:




– «Наш Вожык» ужо амаль гатовы, не хапае толькі малюнка ці здымка. Менавіта такога!

Але слова бярэ строгі, загартаваны ў розных жыццёвых складаных абставінах і сітуацыях Мікалай Сцяпанавіч Камароў. Дарэчы, раней-шы рэдактар газеты. Ён кажа, што прапанаваныя здымкі абсалютна несур'ёзныя! Такія жартачкі вылезуць нам бокам.

Мікалай Ціханавіч – галоўны рэдактар – паціскае плячыма:

– Нешта я не разумею свайго намесніка...

– Што тут разумець! Двор жа райкамаўскі ўгадваецца. А далей, за плотам – вугал дома першага сакратара, яго агарод. Ці не гэты конь там арэ вясной і восенню? Пазнаць можна і вадзіцеля, якога ведаюць






усе Бялынічы. Ён не толькі возіць начальства па службовых справах. Конь, па ўсім бачна, таксама яму не чужы — даўно яны «знаёмыя». А на чыім балансе конь лічыцца? Мы можам толькі здагадвацца. Таму нельга трубіць пра гэта ў наш рупар — газету.

— Сапраўды, у райкамаўскіх гаражах-пабудовах конь даўно прыжыўся, — пачаў нехта развавжаць. — І не паветрам жа ён харчуецца...

Мудры Мікалай Рабцэвіч не пайшоў на канфлікт са сваім намеснікам. Ранейшых хапала.

— Добра, конь каля машыны сёння для нас не галоўнае...

Колькі было «галоўнага» ў другой палове мінулага стагоддзя! Слова «шмат» тут не выратуе.

...Разбіраючы асабісты архіў ужо ў новым стагоддзі, нават новым тысячагоддзі, знайшоў нядаўна здымкі «каня з машынай». Прыгадаліся словы Лёшы Садоўнічага, сказаныя ім пасля той самай планёркі: «Васіль, не выкідвай фоткі! Гадоў праз дзесяць дзе-небудзь цісканеш».

Паўвека прайшло! Нават больш... Сотні, тысячы падзей! Многія забыліся. А тут памятаецца да драбніц, ніякіх прыдумак... Можа, яшчэ і таму, што гэта не першы мой конь.




Я нездарма напачатку ўзгадаў сваю матроскую чатырохгадовую службу. Незабыўная Балтыка! Знаходзячыся ў звальненні, мы з таварышам ідзём па невялікім гарадку Янтарны, што ў Калінінградскай вобласці... Газетны кіёск. І конік — малады жарэбчык — амаль усунуў галаву ў акенца. Кіяскёрша рукой «дае каманду», каб адчальваў. А я паспяваю зрабіць здымак...

У свой час ён друкаваўся ў «Комсомольской правде» і ў магілёўскай абласной газеце. Не сумныя даваліся здымку подпісы — адказы чытачоў на пытанне: «Што б гэта значыла?»

Чаму б не ўспомніць пра конікаў і сёння, думаю. А галоўнае, з набліжэннем Дня беларускага пісьменства ў маіх родных Бялынічах хочацца яшчэ раз прыгадаць раённую газету, дзякуючы якой многія сталі літаратарамі, пісьменнікамі. А заадно пажадаць маім дарагім землякам здароўя, дабра і сонечнага настрою.

*Фотаздымкі аўтара.*

# АНЕКДОТЫ

1 красавіка — самы добры дзень. Можна гаварыць усім праўду і ведаць, што ніхто не пакрыўдзіцца. Усе будуць думаць, што ты пажартаваў.

* * *

— Чаму падатковую дэкларацыю ты падаеш 1 красавіка?

— Каб потым, у выпадку чаго, можна было сказаць, што гэта жарт.

* * *

1 красавіка — адзіны дзень у годзе, калі людзі крытычна ацэньваюць інфармацыю ў інтэрнэце.

* * *

Калі не пажартуеш 1 красавіка, адчуваеш сабе апошнім дурнем. А калі пажартуеш — першым!

* * *

— Я ніколі не адзначаю дзень нараджэння.

— Чаму?

— Ніхто не верыць, што ён 1 красавіка.

**Мікола ГІЛЬ**




Выбеглі на сонца коцікі —
Шчодра расцвіла паўсюль вярба.
Весела кацячая гурба
Грэе жоўтыя жывоцікі.

І ў руках галінкі нездарма —
Радасці вясновай госцікі.
Выбеглі на сонца коцікі —
Шчодра расцвіла паўсюль вярба!






## ТВОРЧАСЦЬ, НЕПАДУЛАДНАЯ ЧАСУ

*Яраслаў Сільвестравіч ПАРХУТА (1930–1996), вядомы беларускі пісьменнік і краязнаўца, амаль усё жыццё прысвяціў працы ў айчыннай перыёдыцы. Ураджэнец вёскі Мілейкі Івацэвіцкага раёна, выпускнік аддзялення журналістыкі філалагічнага факультэта БДУ, ён шмат гадоў шчыраваў у рэдакцыях раённых газет Брэстчыны. А адметны гумарыстычны талент прывёў творцу ў «Вожык», дзе ў 1973–1977 гадах. Яраслаў Сільвестравіч працаваў намеснікам рэдактара, рэдактарам аддзела. Напісаў шмат фельетонаў, гумарэсак, жартаў, якія друкаваліся на старонках часопіса і былі сабраны пад вокладкай кнігі «Мудрая цялушка» (1976).*

*Літаратурная і публіцыстычная спадчына Яраслава Пархуты цікавая чытачам і сёння, калі спаўняецца 90 гадоў з дня нараджэння творцы.*

**Яраслаў ПАРХУТА**




Адзін ляснік дужа любіў пахваліцца сваімі паляўнічымі прыгодамі. Хлебам, як кажуць, не кармі яго, а дай толькі пагаварыць пра тое, як упаляваў дзіка ці зайца... І так, здаралася, захопіцца апісаннем прыгод і трафеяў, што людзі праз якую гадзіну пачыналі паціскаць плячамі:

– Няйначай, ты ў сарочцы нарадзіўся!.. Вязучы дужа!..



А нядаўна ляснік нібы вады ў рот набраў. Ні слова пра свае прыгоды! Толькі да суседзяў чутка ўсё ж дапаўзла: ляснік дужа вялікі трафей дабыў, але трымае гэта ў сакрэце – не хоча, маўляў, страсці распальваць. Змаглі такое суседзі трываць толькі да вечара, пакуль былі на рабоце, а калі сцямнела – кінуліся да лесніка:

– Раскажы, браток, як тое было?

Ляснік паглядзеў на аднаго суседа, на другога, зразумеў, што сакрэту не атрымалася, і сказаў:

– Убачыў – бяжыць! Стрэліў – ляжыць! Я за рогі ды дай бог ногі.

– Ты па парадку давай! – перабілі яго суседзі.

– Няхай будзе па парадку, – адказаў ляснік. – Іду гэта, значыць, пятнаццатым кварталам суседняга лясніцтва, любуюся прыродай. Як трапіў у той абход, добра і цяпер не помню... Помню толькі, што на сэрцы было соладка, нібы хто мёдам памазаў. Раптам нехта з-пад ног як выскачыць! Перапалохаўся ажно. І з таго перапуду як тарабахну!.. Падбег потым і гляджу: каза! Узваліў на плечы, валаку...

– Ну, а потым?

– Значыць, валаку. А на сэрцы – нібы хто яшчэ раз мёдам памазаў... Раптам з-за куста зноў нехта як выскачыць! Узлаваўся за такое нахабства і як тарабахну! Падбег і бачу: лось!

– Ого! – нібы здзівіліся суседзі. – А потым?

– А потым, помню, пазбягаліся мае напарнікі... Адным словам, праз якую гадзіну ад маіх трафеяў адны рожкі ды ножкі засталіся...

– А што потым было? – не суніманіся суседзі.

– Што было, тое было, – ажно скрывіўся ляснік. – Казляціну смажылі. З каравяцінай...

– З каравяцінай? А ты ж казаў, што лася тарабахнуў...

– Лася! – яшчэ болей скрывіўся ляснік. – Сваю ж Пярэстую ўходаў. А такая была кароўка, такая кароўка!..

Суседзі ўжо адкрыта браліся за жываты.

– Ну, а потым, потым што было? – ажно рагаталі яны.

– Усяго было, – з сумам адказаў ляснік. – І ад жонкі, і ад начальства... Колька-хірург назаўтра сказаў, што мы тую аперацыю правялі няправільна. Не трэба было, кажа, так тарабахаць...



*«Мудрая цялушка», Мн., 1976 г.*




Лёля БАГДАНОВІЧ




Мой верш часалі ў хвост і ў грыву,
Мянялі словы і радкі.
Рэдактар надта быў шчаслівы
І задаволены такі.

Казаў, што ў дошку разаб'ецца, –
Цукерка будзе, а не верш!
І загаловак мой, здаецца,
Ён памяняе – перш-найперш.

Праз пэўны час з'явіўся ў прэсе –
Перачасаны ўвесь, не мой!
Блукаю ў ім, нібыта ў лесе:
Сюжэт тут іншы і герой.

Рэдактар добра пастараўся,
Відаць, у шапку не драмаў.
Адзін радочак мой застаўся,
Бо прозвішча не памяняў...



*г. Барысаў.*

*Літаратурныя*




Размаўляюць рэдактар і аўтар-пачатковец.

– Ваша аповесць сведчыць пра вялікую стараннасць. Але трэба будзе шмат працаваць: чытаць як мага болей дома, у трамваі, на працы...

– Вы лічыце, гэта дапаможа?

– Безумоўна! Чым больш будзеце чытаць, асабліва класікаў – Дастаеўскага, Пушкіна, Талстога – тым менш часу застанецца для ўласнай творчасці.



Сустрэліся два пісьменнікі. Адзін заўважае:

– Нешта ты дрэнна выглядаеш...

– Але, у мяне здарылася вялікае гора! – сумна ўздыхае другі.

– Якое?

– Сын спаліў рукапіс майго апошняга рамана!

– Колькі яму гадоў?

– Толькі чатыры.

– І ён ужо ўмее чытаць?



Уступ да самавучыцеля па скалалажанні: «Уважліва і нетаропка прачытайце гэты падручнік. У рэшце рэшт, гэта можа быць ваша апошняя кніга».



Я нядаўна купіў кнігу пра фэн-шуй. Дагэтуль не ведаю, куды яе пакласці.

Віктар КУНЦЭВІЧ




Паэт Кастусь усё хваліўся:
«Ні дня без верша!
Я ў хаце з Музай зачыніўся...»
А Музе смешна.
Паэту кажа: «Слухай, Косця,
Імпэт твой ухваляю.
Але сама хаджу у госці
І дзверы адчыняю.
А да цябе я на хвіліну:
Сказаць,
Каб ты хваліцца кінуў».

*г. Магілёў.*




Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.

**Леў КАЗЛОЎ**




*...Быў час, пра які мелі магчымасць апавядаць толькі летапісцы. Бо з адукацыяй тады справы былі горшыя, чым зараз. Нават уладарныя асобы не ўсе ўмелі чытаць і пісаць, маглі толькі лічыць. Таму і ганаровае гэта званне — летапісец.*

*Хаця адразу ўзнікае пытанне: а што лепш, быць героем нейкіх падзей ці тым, хто пра гэта піша? Імёны большасці знакамітасцей нам вядомыя, а вось хто іх данёс да нас? Ох, сціплыя, занадта сціплыя былі тыя творцы летапісаў! Не раўня сучасным аўтарам. Але калі хто і захаваў сціпласць аж да ўзроўню поўнай невядомасці, дык гэта выдумшчыкі анекдотаў.*

*А дарэчы, ці можна нешта такое знайсці, як кажуць, паміж радкоў у тых нятленных і сур'ёзных опусах? Паверце: можна! Ёсць, ёсць у той сівой альбо замшэлай, хто як хоча, даўніне штосьці з добрага гумару. Бо, дальбог, так жа немагчыма! Чытаеш старыя кнігі і здаецца, што тады людзі рабілі ўсё, каб выглядаць сур'ёзнымі. Не, не можа такога быць, каб смех быў вынайдзены толькі ў бліжэйшыя да нас стагоддзі. Рызыкнём нават сцвярджаць, што ўпершыню рогат страсянуў першабытную прыроду, калі нашы малпападобныя продкі, седзячы на дрэвах, убачылі сваю радню, што рабіла першыя няўпэўненыя крокі па зямлі.*

*Далей — болей. Чалавек не толькі перамяшчаўся, але і нешта такое рабіў, і размаўляў, і меў нейкія своеасаблівыя пачуцці да іншых. Тут ужо можна доўжыць бясконца, але і так зразумела, што разам з гэтым не маглі не памножыцца прычыны і магчымасці для здаровага смеху. Таму, пакінуўшы ў баку добра нам знаёмых старажытных грэкаў і рымлян, паспрабуем надаць самую пільную ўвагу нашай гісторыі...*

Прайшло ўжо нямала гадоў панавання Ягайлы, калі ён у суправаджэнні Вітаўта накіраваўся ў Жмудзь, каб нарэшце ахрысціць мясцовых жыхароў. Кароль пачаў, разважаючы пра сэнс веры, павучаць жмудзінаў, якія з'явіліся па яго загадзе. Адзін з іх на прамову адазваўся: «Я асабіста згодны з тым, што ўсе мы ўваскрэснем, але ўбачыш: толку з гэтага аніякага не будзе».

* * *

Сярод блізкіх да вялікага князя людзей быў шляхціц Мікалай Малдрык, які выконваў ролю



асабістага сакратара і даручэнца па розных далікатных справах. Прыйшоў час, калі гэтая даверaная асоба папрасілася дамоў да жонкі і дзяцей, адным словам, на заслужаны адпачынак. Вітаўт не затрымліваў яго, ды яшчэ вырашыў як след узнагародзіць. Скарбнік атрымаў загад выдаць Мікалаю Малдрыку добрыя футры, коней і іншыя патрэбныя рэчы, а да таго — сто коп грошаў.

Пачуўшы пра ўсё, князева жонка Ульяна пачала горача даказваць, што гэта — рабаванне казны. Тады Вітаўт, нічога не кажучы, дабавіў да той сотні яшчэ адну. Ульяна з новай энергіяй узялася папракаць князя, які ў выніку патроіў узнагароду. Княгіня выбухнула гневам, але чым больш пратэставала, тым больш паслядоўную вытрымку дэманстраваў Вітаўт.

Дайшло да таго, што ён ужо восьмы раз дабавіў свайму вернаму сакратару чарговыя сто коп, і невядома, ці хапіла б усёй дзяржаўнай казны ў гэтым спаборніцтве вялікага князя са жміндай-жонкай, калі б тая не пераканалася ў адваротным выніку свайго красамоўства. Можна ўявіць, якіх нечалавечых намаганняў ёй гэта каштавала!

Згробшы хуценька грошы, Малдрык неўзабаве адправіўся ў родныя мясціны. І доўга яшчэ апавядаў, што маёнтак свой ён здабыў дзякуючы не шчодрасці вялікага князя, а скупасці яго жонкі. «У каго капа ляжыць, да таго яшчэ бяжыць».

*«З дазволу караля і вялікага князя», Мн., 2016 г.*

# КАРЫКАТУРЫ



Анастасія СКАРКО.


Уладзімір ЧУГЛАЗАЎ.


Сяргей ВОЛКАЎ.


Алег ГУЦОЛ.


Алег КАРПОВІЧ.

Генадзь АЎЛАСЕНКА




# ТАКІЯ РОЗНЫЯ ДУЭЛІ

## Дуэль дзвюх прынцэс



У чэрвені 1744 года нямецкая прынцэса Сафія Фрэдэрыка Аўгуста Ангальд-Цэрбская атрымала выклік на дуэль ад стрыечнай сястры, прынцэсы Ганны Людвігі Ангальд.

Абедзвюм «дуэлянткам» споўнілася толькі па пятнаццаць гадоў, ды і прычына была нейкая дробязная... Тым не менш, паядынак прадугледжваўся самы сапраўдны, на шпагах. На шчасце для сусветнай гісторыі, прынцэсы своечасова апомніліся і памірыліся. А вось калі б з Сафіяй Фрэдэрыкай тады што-небудзь здарылася, у гісторыі ніколі б не з'явілася расійская імператрыца Кацярына II.

Дарэчы, калі Сафія Фрэдэрыка (дакладней, ужо Кацярына II) стала імператрыцай, яна адразу ж увяла ў Расіі моду на жаночыя дуэлі. Праўда, пад лозунгам «Да першай крыві».

## Чаму граф адмовіўся ад дуэлі?

У 1806 годзе на лонданскім іпадроме спачатку паспрачаліся, а потым і пасварыліся два джэнтльмены: граф Берымор і Хамфры Ховарт.

На наступную раніцу прызначылі дуэль, на якую Ховарт з'явіўся... поўнасцю агаленым. Усім прысутным, шакіраваным ягоным выглядам, джэнтльмен патлумачыў: вопыт ваенна-палявога хірурга падказвае яму, што часта дуэлянты гінуць не ад самой раны, а ад інфекцыі, якая трапляе туды разам са шматкамі адзення.

Граф Берымор, абражаны выглядам праціўніка, адразу ж адмовіўся ад паядынку.

## Сасіска як... дуэльная зброя

У 1865 годзе міністр-старшыня Прусіі Ота фон Бісмарк выклікаў на дуэль вучонага Рудольфа Вірхава. Апошні з'яўляўся лідарам радыкальнай партыі і рэзка раскрытыкаваў ваенны бюджэт Прусіі: той, маўляў, празмерна раздзьмуты і можа давесці краіну да галечы. І непасрэдная віна ў гэтым, вядома ж, самога міністра-старшыні.

Пакрыўджаны Бісмарк «запрасіў» вучонага на дуэль. Па правілах, выбар зброі заставаўся за тым, каго выклікаюць на паядынак.

Бісмарк метка страляў, ды і шпагай валодаў нядрэнна, таму Вірхаў прапанаваў, каб праціўнікі падчас дуэлі... з'елі па сасісцы, адна з якіх – атручаная.

Бісмарк ад такога «экзатычнага» паядынку адмовіўся. Ягоны аргумент: «Герой не можа памерці, аб'еўшыся сасіскай».



## Як Аляксандр Дзюма пазбег немінучай смерці?

Аўтар «Трох мушкецёраў» некалькі разоў страляўся на дуэлі. Усё для яго звычайна заканчвалася шчасліва.

Але аднойчы знакаміты пісьменнік вымушаны быў удзельнічаць у даволі незвычайным паядынку. Сапернікі цягнулі жэрабя, і той, хто дастаў ракавую паперку, павінен быў... сам застрэліцца. Ім аказаўся Дзюма.

Ні слова не сказаўшы, ён узяў пісталет і выйшаў у суседні пакой. Праз хвіліну адтуль пачуўся стрэл... Неўзабаве «дуэлянт» адчыніў дзверы.

Нейкі час усе моўчкі глядзелі на яго, а потым Дзюма ўздыхнуў і сказаў: «Я страляў, але прамахнуўся!»









Ён кожны дзень пісаў ёй пра каханне,
Прыгожай самай, мілай называў.
Пытаўся, і не раз, ці жонкай стане,
Любіць і клапаціцца абяцаў.

Казаў: «Нарэшце я знайшоў жанчыну,
Якую так даўно сабе шукаў!
Пасуеш мне па рангу і па чыну —
Я ж адмірал, хоць адышоў ад спраў.

Рахунак маю з сумай немалою,
У канцы года грошы можна зняць.
Ды зараз хачу ўбачыцца з табою —
Ці не магла б мне на білет даслаць?»

«Зялёныя» са схованкі дастаўшы,
Даслала адміралу перавод.
Жаніх заморскі, грошы атрымаўшы,
Накіраваў удалеч параход...

У свеце развялося аферыстаў —
«Пілоты», «капітаны», «маракі»...
Ганіце ад сябе такіх артыстаў,
Іначай апусцеюць кашалькі!

**Валянціна БАБКО-АЛЯШКЕВІЧ,**
*Салігорскі раён,*
*в. Радкава.*






Дом у горадзе — не хата,
Шмат у ім жыве людзей.
Хтось — свабодны, хтось — жанаты,
Хто — герой, хто — прахіндзей.

Тут усе навідавоку:
Дзе, адкуль, куды і з кім...
Назіраю сам няўрокам
Я за таварыствам тым.

Ледзьве сонца пачынае
Ясны радасны дзянёк,
Ля пад'езда ўжо чакае
Свайго сябра Калабок.

Ён у вокны пазірае:
Дзе ж падзеўся той дружбак?
Неўзабаве шкандыбае
Доўгі, як сцябло, Гусак.

Дзень наперадзе ў запасе —
Колькі можна спраў зрабіць!
Рады б ім былі ў калгасе,
Бо няма каму касіць.

Ды сябры ідуць у краму,
Каб «чакушачку» прыдбаць.
Тут такая, браткі, драма:
«Трубы» з вечара гараць.

Мчаць да магазіна шпарка,
А да лавы — ўжо не так...
Цэлы дзень сядзяць у парку
Калабок, а з ім — Гусак.

Слаба клеіцца гаворка,
Кожны наракаць мастак:
Стала жыць на свеце горка,
У адной гарэлцы смак.

І не будзе тут прасвету:
Гультаі — ні даць ні ўзяць...
Кожны дзень карцінку гэту
Вымушаны назіраць.

**Іван АСТРОЎСКІ,**
*г. Мінск.*




Алег КАРПОВІЧ.




## Аўтамабіль за зуб

***Мінск.*** Вока за вока, аўтамабіль за зуб. Менавіта так асучасніў вядомы выраз пацыент, незадаволены платнымі стаматалагічнымі паслугамі ў медыцынскім цэнтры. Калі новыя пломбы праз пару дзён «паляцелі», мужчына вырашыў адпомсціць. Ён пашкодзіў тры колы на машыне, якая належала гэтаму цэнтру.

У адказ супрацоўнікі кампаніі таксама паказалі кліенту зубы: звярнуліся ў міліцыю.



## Люты вораг

***Гарадок.*** Ёсць меркаванне, што сквапнасць — люты вораг спакою. Менавіта яна прымусіла мясцовую жанчыну на працягу года незаконна атрымліваць дапамогу па доглядзе за састарэлай сваячкай, фіктыўна аформіўшы яе на сяброўку. І менавіта гэтая рыса характару падвяла «сацыяльную работніцу» праз пэўны час. Махлярка выдала сябе, калі ўзгадала пра пенсію і прадаставіла расійскую працоўную кніжку.

Узбуджана крымінальная справа. Які ўжо тут спакой...

## Пераблытаў

***Гродна.*** Мужчына добра адсвяткаваў уласны дзень нараджэння ў більярдным клубе і пераблытаў з лузай... кішэнь таварыша. Таму пад канец вечара сабраў 16 шароў у скрынку і «падарыў» нецвярозаму прыяцелю, які аднёс іх дамоў.

Але забыўся, што выпадковае пападанне ў дзірку не лічыцца выйгрышным і называецца «дурнем» у гульні нездарма...



## Калі лянота ў ахвоту

***Магілёў.*** Кажуць, што лянота — рухавік прагрэсу. У гэтым на ўласным вопыце ўпэўніўся ўладальнік аўтамабіля, калі пакінуў машыну побач з адным таварыствам і потым не знайшоў яе. Тым часам мясцовы «вынаходнік» выклікаў эвакуатар, які завёз машыну яму дадому. Потым разумнік разабраў аўто на дэталі ды здаў на метал.

Толькі міліцыянеры аказаліся не такімі лянівымі, як злодзей. Знайшлі апошняга і прымусілі вярнуць транспартны сродак. Ды яшчэ і крымінальную справу ўзбудзілі.



## Не свая каляіна

***Пінск.*** Малады гараджанін вырашыў перавесці жыццё на новыя, «прадпрымальніцкія» рэйкі не толькі ў пераносным сэнсе. Ён забраў з чужога панадворка два фрагменты рэек вагой каля 150 кілаграмаў і паспрабаваў збыць адзін з іх у пункце прыёму металаў.

Але трапіў не ў сваю каляіну. «Камерсанта» затрымалі.

*Па інфармацыі прэс-цэнтра Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь.*



Пётр КОЗІЧ.






# Сімпатыя

Маме крыўду я нясу:
— Воўка тузаў за касу,
А чырвоны яркі бант
Для гульні забраў на фант.
Потым контурную карту
Скінуў з рогатам пад парту.
Шкоды нарабіў усякай
Першы ў школе забіяка...
За мяне ўступіўся Мішка:
Адабраў у Воўкі кніжкі.
Той ударыў хлопца лоўка —
Ледзьве разнялі мы бойку...
— Што ж, пайшлі з табою ў клас —
Хай рассадзяць сёння вас.
— Ой, матуля, не, не варта:
Мы падзелім з Воўкам парту!



**Зоя НАВАЕНКА,**
*Глыбоцкі раён,*
*г. п. Падсвілле.*




Наталля КАБЯКАВА і Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.

# Вясновыя загадкі

Абудзіла палі і лугі,
Затапіла азёр берагі.
Цёплым ветрам дыхнула яна,
Спрытна холад прагнала ...

*(Вясна.)*

* * *

З-пад снегу да сонца імкнуцца,
Блакітныя вочкі смяюцца.
Прыгожа квітнеюць узлескі —
Рассыпаны ўсюды ...

*(Пралескі.)*

* * *

Бяроза гасцінцам частуе,
Што ў кожнай галінцы пульсуе.
Вясны падарыў нам глыток
Празрысты ...

*(Бярозавы сок.)*

* * *

Ручаі вясной звіняць,
Птушкі з выраю ляцяць.
Першымі — закон такі! —
Вернуцца дамоў ...

*(Шпакі.)*

**Галіна НУПРЭЙЧЫК,**
*г. Клецк.*

# Анекдоцік

— Спадзяюся, ты памыў рукі? — пытаецца маці перад абедам у сына.

— Так, мамачка, яшчэ ўчора! — радасна адказвае той.







Анастасія СКАРКО і Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.







Аляксандр ШМІДТ х 2.



Пётр КОЗІЧ.




Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.




Хто мае розум, той вагаецца,
Толькі дурны не сумняваецца.

* * *

У сям'і нарадзіліся трое:
Двое разумных, а тое... благое.

* * *

Хто разумным сябе выстаўляе,
Той у дурні нярэдка трапляе.



* * *

Калі, як дурны, да чагосьці імкнешся,
Глядзі, бо аб глупства, браток,
спатыкнешся.
Аднак калі будзеш занадта вагацца,
І сапраўды можаш дурнем застацца.

* * *

Здагадлівы: халоднае куе,
Бы дурань, што ілбом арэхі б'е.

* * *

Там, дзе ў разумнага турбота,
У дурня — вечная нудота.

* * *

Дурным часамі кожны з нас бывае,
Ды розніца вялікая, здаецца:
Разумны межы глупства выстаўляе,
А недалёкі — дурнем застаецца.

* * *

Калі разумны маўчыць,
Дык дурань крычыць.



* * *

Дурань, калі вучыць,
Разумнага замучыць.

* * *

Гора ад розуму — гэта вядома...
Дурню лягчэй: і на людзях, і дома.

* * *

Разумны ў спрэчцы з дурнем
сам губляецца,
І недалёкі гэтым карыстаецца.



**Платон ГУДОВІЧ,**
*г. Мінск.*

## Знарок не прыдумаеш

«Добрае імя вытворцаў цесна ўплецена ў палітру смаку мясных вырабаў гэтага магазіна».

*(З рэкламнага артыкула ў газеце).*

«Камісія звярнула ўвагу на агароды грамадзян, якія завалены хламам, смеццем, зараслі пустазеллем».

*(Са справаздачы).*

«Як паведаміў брыгадзір фермы, у 15 гадзін 30 хвілін, самавольна адчыніўшы станок, выбегла на незагароджаны ўчастак мясцовасці каля фермы, пасля чаго, знаходзячыся на пашы, збегла кабыла па мянушцы Зорка, якая належыць гаспадарцы, чырвонабурай масці, на лбе пляма белага колеру ў выглядзе зорачкі».

*(З міліцэйскага пратакола).*

«Трэба максімальна прыняць вычарпальныя меры».

«Усю гэтую становучую карціну псуе толькі гнілы дах, які ўзяў на аловак старшыня».

*(З газет).*

**Запісаў Міхась СЛІВА,**
*г. Рагачоў.*




- Выкінуць нумар.
- Дзяржаўная натацыя.
- Знаёмства з метрам.
- Лятаючы трон.
- Нішчымная справа.
- Пост бюракрада.
- Кар'ерны мост.
- Мухі творчасці.
- Пераспелы грэх.
- Перспектыўны клан.
- Памінальная цана.
- Пераджытачны мінімум.
- Працоўная нявіннасць.
- Спартыўная выплаўка.
- Спажывецкі пошук.

**Заўважыла Ірына САСНА,**
*Жлобінскі раён,*
*в. Пірэвічы.*




Анекдоты
ад Аксаны Міхайлаўны
КУЛАГІНАЙ,
*дырэктара Аршанскай цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы,*
*і яе калег*

Чытач просіць у бібліятэкара: «Дайце мне Чэхава «Вішнёвы сад», але каб толькі не п'еса!..»

* * *

Бабуля з унучкай два тыдні гулялі ў школу. І толькі напрыканцы гульні жанчына зразумела, што робіць за яе дамашняе заданне.

* * *

Хлопчык на прагулцы пабачыў блізнят і строга пытае ў бацькі:

– А дзе мой другі?..

* * *

У цэнтры сталіцы абрабавана кватэра. Па адбітку далоні крыміналісты высветлілі, што злачынец будзе жыць доўга і шчасліва, але вялікага і светлага кахання не сустрэне.

* * *

Вядучы ў філармоніі:

– Соф'я Чардакова, «Капрыз № 23».

Голас з залы:

– Нічога сабе! Яны ешчэ і капрызы нумаруюць!

* * *

На прыёме ва ўрача.

– Абодва зубы ў вас запаліліся, давядзецца вырываць.

– А колькі гэта будзе каштаваць?

– Сто пяцьдзясят долараў.

– Сто пяцьдзясят долараў за дзве хвіліны работы?

– Ну, калі вам падабаецца, я магу іх выцягваць дзве гадзіны...

* * *

– Дзеці, чаму вы не гуляеце, а сядзіце панурыя?

– Мы гуляем.

– Ува што?

– У дарослых...

  

16+

«Вожык» – грамадска-палітычны, літаратурна-мастацкі часопіс
№ 3 (1578), 2020 год.
*Выдаецца з ліпеня 1941 года.*

Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».

Галоўны рэдактар
Юлія Францаўна ЗАРЭЦКАЯ.

Рэдакцыйная калегія: Сяргей ВОЛКАЎ, Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ, Мікола ГІРГЕЛЬ, Юлія ЗАРЭЦКАЯ, Міхась КАВАЛЁЎ, Казімір КАМЕЙША, Алег КАРПОВІЧ, Міхась ПАЗНЯКОЎ, Уладзімір САЛАМАХА, Васіль ТКАЧОЎ, Мікола ШАБОВІЧ.

Рэдакцыя: Аляксандр КАРШАКЕВІЧ *(намеснік галоўнага рэдактара, мастацкі аддзел)*, Алена КЕДА *(аддзел фельетонаў і пісьмаў)*, Вераніка МАНДЗІК *(аддзел літаратуры)*, Анастасія СКАРКО *(мастацкі аддзел)*.

Адрас рэдакцыі
Юрыдычны адрас: Рэспубліка Беларусь, 220013, г. Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10 а.
E-mail: info@zviazda.minsk.by.

Паштовы адрас: Рэспубліка Беларусь, 220034, г. Мінск, вул. Захарава, 19.
E-mail: a-vojik@yandex.by;
Тэлефон галоўнага рэдактара, намесніка галоўнага рэдактара, аддзелаў фельетонаў і пісьмаў, літаратуры, мастацкага – 244-92-37, бухгалтэрыі – 287-18-81, факс – 284-84-61.

Падпісныя індэксы:
74844 – індывідуальны, 01380 – індывідуальны льготны,
748442 – ведамасны, 01381 – ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 520 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»
Дырэктар – галоўны рэдактар Павел Якаўлевіч СУХАРУКАЎ

Камп'ютарная вёрстка: Святлана ТАРГОНСКАЯ
Стыльрэдактар: Марыя ГІЛЕВІЧ

Падпісана да друку 11.03.2020. Фармат 60х84 $^{1}/_{8}$. Афсетны друк.
Папера афсетная. Ум. друк. арк. 2,79.
Ул.-выд. арк. 3,14. Тыраж 542 экз. Заказ .

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «БудМедыяПраект».
ЛП № 02330/71 ад 23.01.2014, вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск, Рэспубліка Беларусь.









Уладзімір ЧУГЛАЗАЎ х 2.



ВЕРНІСАЖ

Малюе Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ
















**Грак на гары —
вясна на дварах.**

Сакавік дрэвам сок пускае,
падпісацца на «Вожык» заклікае!




## Анекдот

Маладая жанчына спыняе машыну перад чырвоным сігналам святлафора. Загараецца жоўтае святло: аўто стаіць, зялёнае: аўто стаіць... Зноў свеціцца зялёны. Нецярплівa сігналяць іншыя вадзіцелі....

Да машыны не спяшаючыся падыходзіць паліцэйскі і ветліва цікавіцца:

— Мадам жадае які-небудзь іншы колер?



Алег ГУЦОЛ.

## Чытайце ў наступным нумары:




Дзе, як і калі Віктар РЭЧЫЦ трапіў у царства маўчуноў?

Які кур'ёзны выпадак у Індыі нагадаў Генадзю АЎЛАСЕНКУ байку Кандрата Крапівы «Калі ў краме ёсць нястача»?

Які маналог фельчара пачуў і запісаў Віктар САБАЛЕЎСКІ?

Калі ў маі можна хадзіць без штаноў, не рабіць дамашняе заданне і не мыць посуд?

*(На гэтыя пытанні ў рубрыцы «Святкуюць усе!» адкажа Андрэй СІДАРЭЙКА, а таксама падкажа, як адзначыць Міжнародны дзень без дыет.)*



## Нашы індэксы:

**ІНДЫВІДУАЛЬНЫ — 74844,**

**ІНДЫВІДУАЛЬНЫ ЛЬГОТНЫ**
(для жыхароў сельскай мясцовасці: райцэнтры і населеныя пункты раёнаў) — **01380**;

**ВЕДАМАСНЫ — 748442,**

**ВЕДАМАСНЫ ЛЬГОТНЫ**
(для ўстаноў Міністэрства культуры, Міністэрства адукацыі) — **01381.**

Падпісацца можна ў любым аддзяленні сувязі РУП «Белпошта» (у тым ліку самастойна аформіць інтэрнэт-падпіску — на сайце «Выдавецкага дома «Звязда» ў раздзеле «Падпіска» ёсць падрабязная інструкцыя).

Праз аддзяленні сувязі можна аформіць падпіску на абаненцкую скрыню, з дастаўкай да кватэры «з уручэннем з рук у рукі».

РУП «Белсаюздрук» ажыццяўляе прыём падпіскі ў кіёсках і «Да запатрабавання».

А яшчэ — па інтэрнэце (з дапамогай пластыкавых электронных картак, электронных грошай) ці праз аўтаматызаваную сістэму Адзінай разліковa-інфармацыйнай прасторы (АРІП).

Таксама ў Вас ёсць магчымасць атрымаць свежы нумар напярэдадні выхаду папяровага варыянта. Для гэтага патрэбна аформіць падпіску на PDF-версію выдання (на сайце «Выдавецкага дома «Звязда» ў раздзеле «Падпіска» ёсць падрабязная інструкцыя). Даступна падпіска і на папярэднія нумары: у прыватнасці, архіў 2018 і 2019 гадоў.

**ПАДПІСКА НА І ПАЎГОДДЗЕ 2020 ГОДА**

**Падпіска на 1 месяц каштуе:**
**індэкс 74844**, цана 6 рублёў 18 капеек,
**індэкс 01380**, цана 5 рублёў 10 капеек,
**індэкс 748442**, цана 17 рублёў 74 капейкі,
**індэкс 01381**, цана 14 рублёў 29 капеек.



